# Голас Радзімы

№ 17 (2055)
28 красавіка 1988 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ (БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



Імя маладога беларускага спевака Мікалая Скорыкава, бадай, яшчэ не вельмі вядома шырокай аўдыторыі. Некалькі гадоў ён працаваў у Дзяржаўным акадэмічным народным хоры БССР імя Г. Цітовіча. Цяпер — саліст Дзяржаўнага канцэртнага аркестра БССР. Мінулы год шчаслівы ў біяграфіі артыста: ён стаў лаўрэатам I Усесаюзнага радыёконкурсу «Новыя імёны», выступаў у далёкай Аргенціне, дзе жыве нямала нашых землякоў. Пра свае сустрэчы з суайчыннікамі за рубяжом М. Скорыкаў расказвае ў сённяшнім нумары «Голасу Радзімы». («Душа рвецца за марай», стар. 7).

НА ЗДЫМКУ: М. СКОРЫКАЎ з баяністам М. ЛІНЧЫКАМ.

Фота С. КРЫЦКАГА.

ЛЕНІНІЗМ І ПЕРАБУДОВА

## УРАЧЫСТЫ СХОД У КРАМЛІ

«У памяці народаў ёсць даты, знамянальныя для ўсяго чалавецтва. 22 красавіка звяртае людзей да вялікага мысліцеля, які словам і справай аказаў рэвалюцыянізуючае ўздзеянне на лёс сваёй краіны, на ход сусветнага развіцця, — да Уладзіміра Ільіча Леніна».

Гэтымі словамі пачынаецца даклад «За абнаўленне сацыялізму, за ленінізм», з якім выступіў кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, сакратар ЦК КПСС Г. Разумоўскі на ўрачыстым сходзе, прысвечаным 118-й гадавіне з дня нараджэння У. І. Леніна. Сход адбыўся ў Маскве ў Крамлёўскім Палацы з'ездаў 22 красавіка — у дзень нараджэння заснавальніка Савецкай дзяржавы Уладзіміра Ільіча Леніна. На ім прысутнічалі Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў, члены і кандыдаты ў члены Палітбюро ЦК КПСС, намеснікі Старшынь Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР і Савета Міністраў СССР, прадстаўнікі шырокіх колаў грамадскасці, замежныя дыпламаты, зарубежныя госці.

Час непазбежна накладвае свой адбітак на кожную ленінскую гадавіну. Сёлета яна адзначалася ва ўмовах рэвалюцыйнай перабудовы савецкага грамадства, калі ленінскія думкі, ленінскія ідэі сталі яе адпраўнымі пазіцыямі. Перабудова наблізіла нас да Леніна і Леніна да нас. Мы вучымся ў правільным святле бачыць сваё дасягненні і пралікі, аб'ектыўна ацэньваць уклад у будаўніцтва новага грамадства ўсіх савецкіх пакаленняў, іх выдатных прадстаўнікоў.

У дакладзе адзначаны першыя поспехі на шляху перабудовы, зроблены глыбокі аналіз тых праблем, якія трэба вырашыць савецкаму народу, каб у сучасных умовах адрадзіць ленінскае аблічча новага ладу, вызваліцца ад усяго таго, што скоўвала грамадства і не давала ў поўнай меры рэалізаваць патэнцыял сацыялізму.

Не толькі на саміх сябе, падкрэслена ў дакладзе, але і на ўвесь навакольны свет мы глядзім з пазіцый ідэалогіі абнаўлення. Новае мысленне арганічна ўвязвае праблемы і перспектывы сацыялізму ў нашай краіне з праблемамі і перспектывамі развіцця чалавецтва. Яму чужыя ўяўленні даядзернага веку, яно процістаўляе імперыялістычным канцэпцыям гегеманізму і татальнага проціборства, варожасці і нецярпімасці заклік да партнёрства і супрацоўніцтва ўсіх дзяржаў у вырашэнні глабальных пытанняў, перш за ўсё пытанняў вайны і міру, да павагі права кожнага народа на свабодны выбар шляху развіцця, да ўстанаўлення цывілізаваных адносін паміж усімі краінамі. Сацыялізм і мір непадзельныя. Нашы класавыя інтарэсы поўнасцю супадаюць з прыярытэтнымі сёння інтарэсамі ўсяго чалавецтва, яго імкненнем захаваць жыццё на зямлі.

СЯБРОЎСКІЯ СВЯЗІ

## ДЭЛЕГАЦЫЯ З ПНР

У Мінску знаходзілася дэлегацыя Усепольскага пагаднення прафсаюзаў (УППС) на чале з намеснікам Старшыні УППС Р. Сасноўскім. Яна прымала ўдзел у мерапрыемствах Дзён польскіх прафсаюзаў у прыгранічных з ПНР рэспубліках і абласцях СССР.

У паездцы дэлегацыю суправаджалі сакратар ВЦСПС В. Макееў, генеральны консул ПНР у Мінску М. Абядзінскі.

Польскія госці былі прыняты ў ЦК Кампартыі Беларусі. У ходзе гутаркі сакратар ЦК КПБ В. Пячэннікаў расказаў ім аб тым, як праходзяць у рэспубліцы працэсы перабудовы, аб удзеле беларускіх працоўных у разнабаковым савецка-польскім супрацоўніцтве.

Члены дэлегацыі зрабілі паездку на мемарыяльны комплекс «Хатынь», усклалі кветкі да Вечнага агню мемарыяла.

Польскія прафсаюзныя дзеячы наведалі Мінскі трактарны завод, дзе агледзелі вытворчыя цэхі, пабывалі на галоўным канвееры і ў музеі трактароў, мелі гутаркі з кіраўніцтвам і ў прафсаюзным камітэце прадпрыемства.

Госці прынялі ўдзел у вечары дружбы ў Палацы культуры МТЗ. На ім былі таксама прафактывісты Плоцкага ваяводства, якія знаходзяцца на вучобе ў Мінску, прадстаўнікі беларускіх і польскіх прадпрыемстваў, якія развіваюць паміж сабой прамыя сувязі.

УПЕРШЫНЮ Ў КРАІНЕ

## ПАЛІВА З... ВАДЫ

У гродзенскім вытворчым аб'яднанні «Азот» упершыню ў краіне атрымалі вадарод тэрмаэлектрахімічным спосабам.

Запасы нафты, газу, іншых арганічных відаў паліва, як вядома, не бязмежныя. А значыць, усё больш актуальнай становіцца праблема іх эканоміі і, у канчатковым выніку, замены.

Спецыялісты лічаць, што з гэтымі відамі паліва можа паспяхова канкурыраваць вадарод.

Доўгім і нялёгкім быў сумесны пошук калектыву доследнай лабараторыі тэрмаэлектрахімічных працэсаў аб'яднання і маскоўскіх вучоных. Дарэчы, і многія іншыя спецыялісты краіны працавалі над падобнай тэхналогіяй атрымання вадароду. Аднак самымі настойлівымі аказаліся гродзенскія хімікі.

Зараз лабараторыя цесна супрацоўнічае з Беларускім тэхналагічным інстытутам. Іх аб'яднала жаданне атрымаць штучнае вадкае паліва з вадароду і газападобных адходаў вытворчасці аміяку. Нядаўна адбыўся эксперымент. На доследнай устаноўцы атрымалі гаручае, амаль аналагічнае па саставу дызельнаму паліву і бензіну, праўда, нізкаактанавае.

ДЛЯ СЯБЕ І ЗА МЯЖУ



**Чэхаславакія і Балгарыя, Польшча і Куба, Індыя і Іран—вось далёка не поўны пералік адрасоў, па якіх адпраўляецца прадукцыя Мінскага падшыпнікавага завода. І попыт на яе з кожным годам узрастае. Таму і паўстала неабходнасць тэхнічнага пераўзбраення прадпрыемства. Тут плануецца здзейсніць 200 мерапрыемстваў з агульным эканамічным эфектам 1,4 мільёна рублёў. Пасля ўкаранення іх у вытворчасць завод павялічыць выпуск падшыпнікаў на 340 тысяч штук у год.**

**НА ЗДЫМКУ: на адным з вытворчых участкаў падшыпнікавага завода.**

БІЯМЕХАНІЧНЫ СТЫМУЛЯТАР

## ДАПАМАГЛІ ТЭРПСІХОРЫ І ГЕРАКЛУ

Без стамляючых спецыяльных трэніровак і рэпетыцый, усяго за лічаныя мінуты дасягнуць даных вынікаў у гібкасці і рухомасці суставаў. Такую заманлівую перспектыву прапанавалі спартсменам і артыстам балета прафесар В. Назараў і дацэнт В. Кісялёў з Беларускага дзяржаўнага інстытута фізічнай культуры.

Рэалізаваць іх ідэю дапамаглі спецыялісты мінскага навукова-вытворчага аб'яднання «Г[illegible]нат», якія ўзяліся за вытворчасць распрацаван[illegible] даследчыкамі біямеханічнага стымулятара мышцаў.

Прадпрыемства ўжо адправіла заказчыкам першую партыю гэтай арыгінальнай навінкі. Яе заказалі мінчанам вучэбна-трэніровачны цэнтр «Бакурыяні», Адлерскі спарткомплекс, алімпійскі парусны цэнтр «Пірыта» ў Таліне, медсанчасці і прафілакторыі дзесяткаў прадпрыемстваў краіны.

Гэты прыбор выклікае штучную вібрацыю мышцаў, якая знешне амаль непрыметная, але дзейнічае на іх, як і максімальныя фізічныя нагрузкі. У выніку крываток павялічваецца ў 10 — 15 разоў, хоць сэрца працягвае біцца ў ранейшым рытме. Пасля такой працэдуры мышцы становяцца больш эластычнымі, набываюць здольнасць лепш расцягвацца і, насуперак азбучнай для спецыялістаў ісціне, не страчваюць сілу, а, наадварот, набываюць яе.

МЕЛІЯРАЦЫЯ

## ПРАЕКТЫ НАРАДЖАЮЦЦА Ў ПІНСКУ

Няма ў беларускім Палессі кутка, дзе б не пакінулі свае «аўтографы» спецыялісты інстытута «Саюзгіпрамеліявадгас», якому споўнілася дваццаць год.

Было аб чым гаварыць на ўрачыстым вечары, прысвечаным гэтай даце, тапографам, геолагам, глебазнаўцам, гідролагам, архітэктарам. Распрацаваная імі праектна-каштарысная дакументацыя дазволіла меліяраваць звыш мільёна гектараў забалочаных земляў. Разам з новым асушэннем вялікая ўвага ўдзелена рэканструкцыі старых сістэм. Сумесна з калегамі з іншых гарадоў пінчане склалі праекты 27 новых саўгасаў і аднаго рыбгаса. Узяты курс на стварэнне водаабаротных меліярацыйных сістэм, польдэраў з рэгулюемым ранневесенавым затапленнем. На аб'ектах шырокае прымяненне знаходзяць аўтаматыка і электроніка.

Цяпер сваю галоўную задачу калектыў бачыць у тым, каб распрацаваць меліярацыйна-водагаспадарчыя комплексы з высокімі тэхніка-эканамічнымі паказчыкамі, якія забяспечваюць рацыянальнае выкарыстанне і ахову прыродных рэсурсаў.

КУЛЬТУРА ВЫТВОРЧАСЦІ

## НАВОШТА ЗАВОДУ МАГАЗІН?

Па ўсіх правілах вялікага гандлю арганізаваў работу магазін-салон, які адкрыўся на тэрыторыі Мінскага маторнага завода. У ім—вітрыны з узорамі спецадзення і абутку для рабочых і цэхавых кіраўнікоў, прымерачныя кабіны, мікраатэлье, у якім можна падагнаць спяцоўку па фігуры.

Між іншым, спяцоўкай многае з прадстаўленага тут цяпер і не назавеш. У сініх джынсавых касцюмы апрануліся майстры завода, шэрыя паўшарсцяныя строгага дзелавога пакрою—прызначаны для начальнікаў цэхаў, арыгінальныя і яркія камбінезоны падрыхтаваны для зборшчыц...

Служба, якая займаецца нарыхтоўкай і выдачай спецадзення, існавала на прадпрыемстве і раней. Але год работы ў новых умовах прымусіў калектыў інакш зірнуць на яе ролю, а разам з тым і на эстэтыку, культуру вытворчасці.

ПАДРЫХТАВАНА Ў ВЫДАВЕЦТВЕ

## З «КАСМІЧНАЙ» СЕРЫІ

Мацнее творчая дружба беларускага выдавецтва «Юнацтва» з савецкімі касманаўтамі. Пачалася яна з кнігі пісьменніка Міколы Гіля пра П. Клімука «Ёсць на зямлі крыніца». Шчыра, цёпла расказаў аўтар пра дзіцячыя і юнацкія гады героя, пра подзвіг свайго земляка.

З цеплынёй успамінаюць выдаўцы сустрэчы з маці першага касманаўта. Ганна Гагарына наведала выдавецтва перад выпускам яе кнігі «Слова пра сына». З вялікай любоўю і павагай гаварыла яна пра Беларусь, пра сустрэчы з пісьменнікамі рэспублікі, дарагімі ёй сэрцу мінчанамі, з многімі з якіх яна падтрымлівала да канца сваіх дзён сяброўскія адносіны. Таму так цёпла гучыць прысвячэнне ў прадмове: «Кнігу ўспамінаў пра маёго сына я з вялікай радасцю адрасую юным і дарослым беларускім чытачам».

Сёлета ў «Юнацтве» выйшла яшчэ адна кніга пра Ю. Гагарына: «Мой брат Юрый» В. Гагарына. Гэта яе другое выданне—па шматлікіх просьбах чытачоў.

І вось—працяг касмічнай тэмы: падрыхтавана да друку кніга нашага земляка двойчы Героя Савецкага Саюза Уладзіміра Кавалёнка. Гэта аўтабіяграфічная аповесць, у якой аўтар расказвае пра сваю дарогу ў космас, разважае аб значэнні мірнага асваення сусвету.

ЭСТЭТЫЧНАЕ ВЫХАВАННЕ



**Адзінаццаць гадоў працуе ў пасёлку Крынічны Мазырская карцінная галерэя, якая з'яўляецца філіялам Дзяржаўнага мастацкага музея БССР. У ёе экспазіцыі творы жывапісу, графікі, скульптуры сучасных беларускіх майстроў. Карцінная галерэя ў Крынічным — адзін з цэнтраў эстэтычнага выхавання працоўных Гомельшчыны.**

**НА ЗДЫМКУ: у зале галерэі.**

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

КОБРЫН. 200 плямістых аленяў пасяліліся ў 50-гектарным вальеры саўгаса «Днепра-Бугскі». Пад яго працаўнікі гаспадаркі адвялі пералескі і няззручныя для земляробства сельгасугоддзі.

Ужо да канца бягучай пяцігодкі тут разлічваюць атрымаць першыя кілаграмы каштоўнай сыравіны для фармацэўтычнай прамысловасці—пантаў, з якіх выпрацоўваецца вядомы «эліксір здароўя»—пантакрын.

МІНСК. На аўтамабільным заводзе створаны 360- і 420-сільныя магістральныя аўтапаязды з рэсурсам рухавіка 600 тысяч кіламетраў без капітальнага рамонту. Яны прызначаны для міжнародных перавозак. Частка іх будзе пастаўляцца на экспарт.

Міжведамасная камісія ацаніла аўтапаязды як адпавядаючыя сусветнаму ўзроўню.

БАРЫСАЎ. Звыш чатырох мільёнаў саджанцаў хвойных і ліставых парод перакачоўваюць у гэтыя дні з базісных лесагадавальнікаў на дзялянкі, ачышчаныя прасекі Кішчына-Слабодскага, Забашэвіцкага, Барысаўскага і іншых лясніцтваў раёна. На загадзя падрыхтаваных плошчах высаджваюцца елка, сасна, дуб, ясень, клён. Усяго гэтай вясной лес павялічыцца на 650 гектараў.

Паралельна лесаводы нарыхтоўваюць бярозавы сок. За сезон яны маюць намер здаць 400 тон каштоўнага напітку.

*КЛОПАТ ПРАФСАЮЗАЎ АБ ЗДАРОЎІ ЛЮДЗЕЙ*

# ВЫРАШЭННЕ ПРАБЛЕМ— АГУЛЬНЫМІ НАМАГАННЯМІ

**Што робіцца сёння для паляпшэння аховы здароўя працоўных, прафілактыкі і зніжэння захворванняў! Аб гэтым расказвае загадчык аддзела па дзяржаўнаму сацыяльнаму страхаванню рэспубліканскага Савета прафсаюзаў Адам ЛЯЎКОВІЧ.**

Трэба адразу адзначыць, што гэта вялікая як па аб'ёму, так і па сваёй важнасці справа ў прафсаюзаў — адна з найгалоўнейшых. Але «манаполіі» на яе ў нашых камітэтаў няма. Ды і не здолелі б мы толькі ўласнымі намаганнямі вырашаць усе праблемы, што тут існуюць. Патрэбны агульныя дзеянні ўрадавых органаў і ўстаноў аховы здароўя, гаспадарчых арганізацый.

На чым жа канцэнтруюць асноўную ўвагу прафсаюзы? Першае, гэта паляпшэнне ўмоў працы і быту. У Савеце прафсаюзаў існуе спецыяльная тэхнічная інспекцыя, яе супрацоўнікі кантралююць умовы працы на кожным канкрэтным прадпрыемстве, добра ведаюць становішча ва ўсіх кутках рэспублікі. На жаль, ёсць яшчэ ў нас прадпрыемствы, дзе неадпаведная сучасным патрабаванням тэхнічная аснашчанасць, адсутнасць кантролю з боку адміністрацыі вядуць да парушэння правілаў і норм бяспекі на вытворчасці, забруджвання навакольнага асяроддзя. Я маю на ўвазе перш за ўсё Наваполацк, Магілёў, Светлагорск, Мазыр...

Аб растучай занепакоенасці ў сувязі з гэтым гаворыць і тое, што на адным з пасяджэнняў Бюро Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі са справаздачай выступаў міністр аховы здароўя БССР У. Улашчык, кіраўнікі буйных прадпрыемстваў, чыя вытворчасць выклікае трывогу з-за звязаных з ёю экалагічных праблем і нездавальняючых умоў працы. Ішла крытычная, прынцыповая размова з генеральнымі дырэктарамі вытворчых аб'яднанняў «Наваполацкнафтааргсінтэз», магілёўскага «Хімвалакно», з некаторымі іншымі. Вытворчасць дзеля вытворчасці — з такім падыходам грамадства мірыцца больш не жадае. І таму павышаецца мера адказнасці кіраўнікоў, выдзяляюцца ўсё большыя матэрыяльныя сродкі на патрэбы справы.

Наш аддзел дзяржаўнага сацыяльнага страхавання займаецца непасрэдна пытаннямі аздараўлення дарослых і дзяцей. Зараз у рэспубліцы працуюць 57 санаторыяў на 14 тысяч месцаў. Шостая частка з іх належыць прафсаюзам. Прымаюць адпачываючых 110 заводскіх санаторыяў-прафілакторыяў. Іх будуюць за грошы прадпрыемствы, мы, прафсаюзы, забяспечваем іх медыцынскім персаналам. У санаторыі - прафілакторыі прыязджаюць людзі пасля працоўнага дня, праходзяць тут курс лячэння. Ці задавальняецца попыт на такія пуцёўкі? На жаль, пакуль не. Таму прафсаюзы, міністэрствы вельмі многа і сур'ёзна зараз працуюць над тым, як хутчэй і найбольш эфектыўна вырашыць гэтую праблему. Але справа вельмі няпростая. Як вядома, сёлета прадпрыемствы пераходзяць на новыя метады гаспадарання — самафінансаванне, гаспадарчы разлік, дзе «арыфметыка» даволі простая: калі завод добра працуе, атрымлівае вялікі прыбытак ад рэалізацыі сваёй прадукцыі, то мае грошы і на ўмацаванне сацыяльнай базы для сваіх работнікаў, у тым ліку і на будаўніцтва прафілакторыяў. Не — тады няма пра што і казаць. Але «багатых» прадпрыемстваў у нас пакуль не столькі, як хацелася б. Савет жа прафсаюзаў мае магчымасць фінансаваць толькі рэканструкцыю ці рамонт ужо існуючай лячэбнай установы. І хаця праблема пакуль вострая, у рэспубліцы ёсць ужо нямала выдатных санаторыяў - прафілакторыяў. Вось зусім нядаўна я ездзіў у камандзіроўку ў Салігорск, дзе бачыў, як вядзецца аздараўленне шахцёраў у санаторыі-прафілакторыі аб'яднання «Беларускалій». Там выдатная матэрыяльная база. Ёсць свая мясцовая мінеральная вада, завозяцца лячэбныя гразі. Працуе басейн з мінеральнай вадой, салярый. Дасканала адпрацавана праграма не толькі лячэння, але і адпачынку. Пакоі з усімі зручнасцямі, у меню ўваходзіць свежая гародніна, якая пастаўляецца з цяпліц прадпрыемства. Нездарма пасля курсу аздараўлення ў гэтым санаторыі - прафілакторыі 26 працэнтаў з тых, хто там адпачыў, на працягу наступнага года наогул не звяртаюцца да ўрачоў, няма патрэбы. Арганізоўваюць у Салігорску і спецыяльныя змены адпачынку для маці і дзіцяці.

Такія пуцёўкі вельмі выгадныя для рабочых і з матэрыяльнага боку. Бо ўладальнік плаціць за яе толькі 16 рублёў. У той час, як поўны кошт — 140. Асноўную частку аплачваюць прадпрыемства і галіновы камітэт прафсаюза.

Другі наш вялікі клопат — санаторна - курортнае аздараўленне. Сёлета працоўныя рэспублікі атрымаюць ад прафсаюзных камітэтаў больш за 118 тысяч пуцёвак для лячэння ў санаторыях. А будуць яшчэ пансіянаты, дамы адпачынку... Для дзяцей кожнае лета ў час канікулаў адкрываецца пяць з паловай тысяч загарадных піянерскіх лагераў. Гэта дазваляе толькі па пуцёўках прафсаюзаў аздаравіць 1,2 мільёна дарослых і дзяцей. Да таго ж трэба ўлічыць, што амаль усе гэтыя пуцёўкі прадаюцца з вялікімі льготамі. Прафсаюзныя камітэты аплачваюць 70 працэнтаў іх кошту, а некаторая частка пуцёвак наогул не будзе каштаваць рабочым і іх дзецям ні капейкі. У нас у рэспубліцы сёлета на мэты дзяржаўнага сацыяльнага страхавання выдаткавана 988 мільёнаў рублёў. Гэтыя грошы і ідуць на аздараўленне, выплаты па бальнічных лістках часовай непрацаздольн[illegible] дапамогу маладым мац.

Лічбы, прыведзеныя вышэй, значныя, у іх пастаянны клопат нашага грамадства аб рабочым чалавеку. Але пакуль яны нас не задавальняюць. Падыходзіць лета, і зноў нам прыйдзецца на некаторыя просьбы аб пуцёўках адказваць: «На жаль, няма». Асабліва складанае становішча з сямейным адпачынкам: попыт сёння значна апярэджвае прапанаванне. Да 1990-га года мяркуецца адкрыць яшчэ 28 мясцовых санаторыяў-прафілакторыяў.

Вынікам прынятых мер па паляпшэнню аховы здароўя і прафілактыкі захворванняў стала стабільнае зніжэнне ў рэспубліцы такога паказчыка, як часовая непрацаздольнасць людзей. Ужо ў мінулай пяцігодцы (1981—1985) яе сярэднегадавы ўзровень знізіўся на 8,7 працэнта. І за 1987 год склаў 677 дзён, якія прапушчаны па хваробе, на 100 працуючых. Гэта менш, чым летась. Здароўе людзей само па сабе найвялікшая каштоўнасць, зніжэнне страт рабочага часу з-за хвароб толькі за 1987 год дазволіла зэканоміць больш за 39 мільёнаў рублёў з вышэй згаданага фонду дзяржаўнага сацыяльнага страхавання. Значную частку названай сумы мы змаглі дадаткова выдзеліць на развіццё аховы здароўя ў рэспубліцы. Такім чынам, як бачыце, карысць ад гэтага ўсім.

Сёння работа па далейшаму паляпшэнню аховы здароўя працоўных значна актывізуецца. Урадам краіны прынята пастанова «Асноўныя напрамкі развіцця аховы здароўя насельніцтва і перабудовы аховы здароўя СССР у дванаццатай пяцігодцы і на перыяд да 2000 года». Адпаведны дакумент прыняты і Саветам Міністраў БССР. Але толькі ад адных пастаноў, хай сабе і вельмі добрых, чалавек здаравейшым не стане, неабходна ажыццявіць шмат канкрэтных спраў. Вось гэта і ёсць наша галоўная задача.

# ПРАПАНОЎВАЕ „ДЗВІНА“

**АГРАПРАМЫСЛОВЫ камбінат «Дзвіна», створаны на базе саўгаса «Рудакова» Віцебскага раёна, значна палепшыць забеспячэнне насельніцтва горада Віцебска сельскагаспадарчымі прадуктамі. У аб'яднанне ўвайшлі пяць гаспадарак, віцебскі «Гарплодагароднінагандаль» з сеткай магазінаў і два перапрацоўчыя заводы. За кароткі тэрмін уведзены ў дзеянне сховішчы для бульбы і іншай гароднінңай прадукцыі. Адрамантавана 12 гароднінных магазінаў, у трох з іх адкрыты ўтульныя гароднінныя кафэ. На базах зманціраваны аўтаматычныя лініі па фасоўцы саленняў і квашанай капусты, што дазволіла няспынна забяспечваць гараджан гэтай прадукцыяй. Цяпер у абласным цэнтры рыхтуецца да адкрыцця кафэ па продажу кумысу. Пастаўляць яго будзе саўгас імя Углоўскага, дзе маецца каняферма і працуе цэх па вытворчасці лекавага напітку. У саўгасе «Сялюты» наладжана прыгатаванне каўбасных вырабаў. Фірменныя магазіны атрымліваюць іх ад гаспадаркі больш чым 200 тон у год. Пачата будаўніцтва камбіната па перапрацоўцы бульбы.**
**Сёлета работнікі агракамбіната плануюць вырасціць і рэалізаваць насельніцтву 2,3 тысячы тон гуркоў, тысячу тон памідораў, многа зяляніны. Цяпер агуркі, зялёная цыбуля, пятрушка паступілі на прылаўкі магазінаў.**









**НА ЗДЫМКАХ: цяплічніца Валянціна СТАРАСЦЕНКА рыхтуе да адпраўкі ў фірменныя магазіны свежую зяляніну; у адной з цяпліц; вялікі асартымент фруктаў і сокаў прапаноўвае пакупніку прадавец кафэ пры гароднінным магазіне № 1 агракамбіната «Дзвіна» Алена НІКІФАРАВА; лекавы напітак — кумыс вытворчасці саўгаса імя Углоўскага.**

**Фота А. ЦАРЛЮКЕВІЧА.**

## *ВИНОВАТ ЛИ В ЭТОМ ЧЕРНОБЫЛЬ?*

# «СТРАШНОЕ ЛЕТО» В АМЕРИКЕ

Вообразите картину: вконец растерянный «средний» американец обреченно шествует бок о бок со зловещей фигурой в белом саване. Фигуру для большей выразительности снабдили еще и косой. Так что следует бедолага-американец, надо полагать, к своему печальному концу. Подпись под фотографией, на коей все это изображено, вопрошает: не окажется ли и кто-то из нас в таком же положении? Этим веселеньким коллажем английский журнал «Экономист» предваряет один из гвоздевых материалов январско-февральского номера. Статья называется «Страшное лето».

Что-то странное произошло в Америке летом 1986 года, начинает эпическое повествование журнал, в стране умерло на 35—40 тысяч человек больше, чем обычно. Почему? Анонимный автор (или авторы) статьи со ссылкой на доктора Джея Гоулда из Института политических исследований в Вашингтоне утверждает, что повышение смертности было не случайным. В материале приводятся цифровые выкладки на этот счет за последние 80 лет, причем из каждого года берутся лишь четыре месяца — с мая по август. Из цифр следует, что летом 1986 года смертность в США была наивысшей, а если точнее — на 1,1 процента больше среднего уровня в сравнении с аналогичным периодом 1983—1985 годов. В результате чего же возник всплеск смертности? Разгадка, выдвигает гипотезу «Экономист», возможно, связана со взрывом в Чернобыле...

Согласитесь, что столь серьезное утверждение требует весомых аргументов. Доктор Гоулд, выдающийся статистик, как его характеризует журнал, пытается найти такие доказательства. Он опирается на данные, показывающие, что уровень радиоактивности в дождевой воде и в молоке в ряде регионов США летом 1986 года повысился. Правда, вынужден признать Гоулд, повышение было меньше 1 процента (!) от той предельной, принятой в США величины, которая может считаться опасной. Допустимо ли на столь зыбкой цифре строить вообще какие-то выводы? Ведь в конце концов все мы слушаем прогнозы погоды, и ни один год не бывает похож на другой: то магнитные бури, каких уже не было сто лет, то протуберанцы на Солнце. Можно ли в принципе отфильтровать все природные и антропогенные явления, способные повлиять на смертность и уверенно оставить только один какой-то слабо выраженный фактор, в данном случае — радиационный? С этими вопросами я пришел к известному советскому специалисту в области радиационной медицины и противорадиационной защиты вице-президенту АМН СССР академику Леониду Ильину.

— Подобная связь изменения уровня смертности в США с аварией на Чернобыльской атомной станции, — говорит ученый, — не имеет никакого научного обоснования. Ведь в Европе летом 1986 года общий радиоактивный фон был значительно выше, чем в США, но никаких аналогичных явлений он не вызвал. Это хорошо известно авторам статьи. Поэтому в ход они пускают так называемую «теорию свободных радикалов» доктора Эрнеста Стернгласса из университета в Питтсбурге. Не вдаваясь в детали этой «теории», можно сказать, что ее суть в том, что при воздействии сверхмалых доз радиации в организме создаются условия, способствующие развитию уже имеющихся заболеваний. И это ведет к более ранней гибели людей. Существенным, я бы сказал даже — экстравагантным, элементом теории является утверждение, что названный выше эффект не может проявиться при более высоких дозах облучения.

— Оригинальная получается вещь, если я правильно понял: страшны не большие дозы облучения, как считалось до сих пор, а малые, и даже сверхмалые?

— Совершенно верно. Но подобная трактовка противоречит общепризнанным представлениям об эффектах действия малых и сверхмалых доз на организм человека. По меньшей мере странными выглядят утверждения, содержащиеся в статье: в Европе действие «чернобыльских» выпадений не проявилось, так как европейские дозы многократно превысили американские. На территории же США Гоулд и Стернгласс обнаруживают связь очень незначительного повышения радиоактивного фона и со смертностью, и с уменьшением рождаемости, хотя речь идет, повторяю, скажем, о колебаниях содержания радиоактивного йода в молоке в пределах лишь одного процента.

— Но подобные колебания фона наблюдались, вероятно, и раньше? Ведь было время, когда ядерные державы, и прежде всего США, проводили испытания атомного оружия во всех доступных им средах: на земле, под водой, в атмосфере. Радиоактивные облака подолгу путешествовали над планетой, создавая радиоактивный фон самых разных уровней: и относительно большой, и малый. Из статьи следует, что эти радиоактивные выбросы не привели ни к каким — или, по крайней мере, сколько-нибудь заметным всплескам в уровне смертности. И только «чернобыльское облако», и только над территорией США прочертило свой трагический след...

— Я как раз и хотел остановиться на этом моменте. В нем еще одно подтверждение того, что теория Стернгласса не выдерживает критики. Наукой не установлено зависимости колебаний уровня общей смертности от доз естественного радиационного фона. Кстати, величина такого фона существенно различна для разных регионов мира. Более того, не выявлено также влияния на смертность населения от облучения за счет глобальных радиоактивных выпадений, имевших место после испытаний ядерного оружия. Если говорить конкретно о США, то уровень выпадений радиоактивных осадков там и обусловленные ими дозы менялись от нуля в сороковые годы, когда испытаний оружия еще не проводилось, до значительных величин, в десятки миллибэр в 1963—1964 годах. Были периоды, когда дозы от выпадений радиоактивных осадков превышали уровень лета 1986 года в десятки и сотни раз. Понятно, что неизбежно должны были возникать и более низкие уровни, аналогичные тому радиоактивному фону, который имел место в мае — августе 1986 года. По Стернглассу, это должно было привести к появлению пиков смертности. Но статистик Гоулд таких пиков не обнаружил, за исключением лишь одного — «чернобыльского». Это обстоятельство уже само по себе опровергает попытку приписать повышенную смертность «страшным летом» 1986 года действию сверхмалых доз радиации.

— К числу возможных жертв «чернобыльского облака» Гоулд и Стернгласс относят прежде всего людей пожилых и ослабленных, страдающих неизлечимыми заболеваниями, пониженным иммунитетом, то есть в общем-то обреченных, но которые теоретически еще какое-то время могли бы жить. Лично мне подобный прием подсчета напоминает встречающиеся в «науке» случаи, когда исследователи заранее берут нужный им тезис и подгоняют под него статистику. Чаще это свойственно молодым и не очень разборчивым в средствах ученым. Доктора же Стернгласса журнал «Экономист» представляет как заслуженного профессора в отставке, то есть человека, уже прошедшего свой путь в науке и обязанного иметь понятия о научной этике...

— А вот журнал «Экономист» почему-то счел возможным познакомить своих читателей с открытиями Гоулда и Стернгласса. Похоже, «Экономисту» нужна сенсация, и не просто как таковая, а определенного политического свойства. Но представим на секунду, что произойдет, если все страны возьмут на вооружение вышеупомянутую «методику» и начнут отыскивать следы действия сверхмалых доз? При этом надо будет научиться отличать свои собственные, «родные», микродозы от привнесенных извне.

— Хотел бы обратить внимание, — говорит в заключение беседы Леонид Ильин, — что авторы статьи в «Экономисте» и сами сознают слабость приводимых ими аргументов. Не зря они заканчивают свое сенсационное сообщение ссылками на то, что исследования Гоулда и Стернгласса — только начало работы, что для выяснения причины повышенной смертности в США летом 1986 года «необходим полный анализ безопасных уровней радиации». (Интересно, а кто им мешал это сделать?). Но ясно, что все оговорки — лишь маневр с целью хоть как-то оградить себя от обвинений в недобросовестности. Ведь авторы прекрасно понимают, что даже в таком виде—гипотетическом — статья выполняет свою задачу. В самом деле, будет ли не искушенный в тонкостях радиологии читатель разбираться: строгую научную истину ему преподнесли или чистейший вымысел, прикрытый наукообразными рассуждениями?..

Игра в «мучительные поиски» разгадки тайны идет до конца материала. Заканчивается статья вопросом, который авторы задают сами себе: а если не Чернобыль был причиной «страшного лета», что же тогда? Действительно, и что же тогда? Во всяком случае, этим вопросом авторам следовало бы задаться прежде, чем сесть за письменный стол.

**Михаил ЧЕРНЫШОВ.**
(АПН).

МОСКОВСКОЕ издательство «Наука» выпустило книгу кандидата исторических наук сотрудника Института истории СССР Александра Кавтарадзе «Военные специалисты на службе Республики Советов. 1917—1920 гг.».

В 1918 году молодая Советская республика была в тяжелом положении. Идея ее защиты силами «революционных партизанских батальонов» оказалась малоэффективной. После ряда неудач на фронте был принят закон о сформировании в марте 1918 года Высшего Военного Советов — координирующего центра для создания массовой регулярной Красной Армии. Последнее стало возможным лишь при широком привлечении на службу Советской власти генералов и офицеров бывшей старой армии.

революции поставил их в тяжелое положение. Генералы и офицеры увольнялись без сохранения пенсионного содержания, часто просто не имели средств к существованию и не знали, что им делать в подобной обстановке. Когда же Коммунистическая партия и Советское правительство приступили к созданию массовой регулярной армии и соответственно широкому привлечению военных специалистов, последние увидели в такой службе возможность существовать и, конечно, реализовать свои профессиональные способности, служа Родине.

Многие бывшие генералы и офицеры не имели определенной политической платформы. Поэтому Колчак и Деникин, которые выступили против Советской республики вместе с

## ЦАРСКИЕ ОФИЦЕРЫ В КРАСНОЙ АРМИИ

# СЛУЖИЛИ РЕСПУБЛИКЕ, СЛУЖИЛИ ОТЕЧЕСТВУ

Существует стереотип, говорит автор книги, что накануне Октября 1917 года армия делилась на две части — революционных солдат и монархических офицеров. Между тем командный состав царской армии отнесся к свержению царизма без активного противодействия. Из 250-тысячного командного состава только 3 тысячи подняли сразу оружие против Советской власти. В течение же всей гражданской войны (1918—1920) 30 процентов, или 75 тысяч, бывших генералов и офицеров царской армии сражались на стороне революции. А около 30 процентов офицерского корпуса перешли на гражданское положение и рассеялись по всей территории бывшей Российской империи.

Александр Кавтарадзе в своей книге обращается еще к одному интересному факту. В рядах Красной Армии служило «не за страх, а за совесть» 14 390 бывших белых офицеров. По-разному сложилась в дальнейшем их судьба. Например, Леонид Говоров, штабс-капитан белогвардейской армии адмирала Колчака, перешел во время гражданской войны на сторону Красной Армии. Впоследствии он стал Маршалом Советского Союза, видным военачальником.

В своем исследовании ученый отмечает, что в Красной Армии присутствовали все категории старого командного состава: от бывшего Верховного Главнокомандующего Алексея Брусилова и военных министров царского и Временного правительств генералов Алексея Поливанова, Дмитрия Шуваева, Александра Верховского до прапорщиков, произведенных в офицеры из солдат за храбрость.

На действовавших фронтах, в сформированных армиях и дивизиях, отмечает он, военные специалисты занимали все высшие должности. Они составили 85 процентов командующих фронтами, 82 процента командующих армиями, 70 процентов командиров дивизий. Наконец, на должности Главнокомандующего всеми вооруженными силами Республики находились в разное время бывшие полковники старой армии Иоаким Вацетис и Сергей Каменев.

Переход бывших генералов и офицеров на сторону Советской власти объясняется целым рядом обстоятельств, пишет Александр Кавтарадзе. Роспуск регулярной армии после Октябрьской социалистической

иностранными интервентами, вызывали у настоящих патриотов антипатию. Автор книги приводит по этому поводу позицию бывшего полковника Генштаба Николая Соллогуба: «У Советского правительства представление о России одинаково с моим. Как этому правительству нужна армия, так и России, по моему представлению, нужна армия». Таким образом, определяющим фактором поворота бывших генералов и офицеров к сотрудничеству с Советской властью, подчеркивает Кавтарадзе, явилось постепенно пришедшее понимание того, что она — единственная в стране власть, представляющая Россию и ее народ.

Большое значение имела позиция Советского правительства по отношению к военным специалистам: не посягать на их политические убеждения, если они согласны добровольно и честно отдать свои знания в интересах народа. Это было законодательно закреплено в резолюции V Всероссийского съезда Советов — высшего законодательного органа республики — 10 июля 1918 года.

Конечно, курс на использование военных специалистов был сложным и трудным в своем практическом осуществлении. Линия партии вызывала возражения у некоторых видных большевиков.

Оценка роли военных специалистов в строительстве массовой Красной Армии неоднократно давалась основателем Советского государства Лениным. Он уделял большое внимание налаживанию правильной работы с бывшими офицерами. Ленин писал:

«Вы слышали о ряде блестящих побед Красной Армии. В ней работают десятки тысяч старых офицеров и полковников. Если бы мы их не взяли на службу и не заставили служить нам, мы не могли бы создать армию».

К сожалению, эти слова были постепенно забыты. Статья маршала Климента Ворошилова «Сталин и Красная Армия», написанная в 1929 году, сместила акценты в освещении истории гражданской войны, приписав без всякого основания значительное число успехов одному человеку. В дальнейшем события, связанные с культом личности, отразились и на судьбах бывших военных специалистов. В 1930 году большинство их было, по указанию Сталина, уволено из армии.

**Игорь ТЕРНЯВСКИЙ.**
(АПН).

*These photos were taken by our photocorrespondent during the Conference of schoolchildren from the Soviet Union and the USA that took place in April in the capital of Byelorussia. The motto of the Conference was: "Peace: what is necessary to do to preserve it?" Try to define where are the Soviet children and where are the Americans. It is almost impossible. Several days that young boys and girls from Minsk spent with their new friends from the USA, talks on different topics, discussions of questions of importance for both sides, demonstrated that the children did not only look alike, but also had the same views on many of the problems facing the world and had the same plans and aims.*

*— The history of relations between our two countries saw different periods,— said Head of the delegation from the USA Walter Tremer,— And those different periods developed different feelings of the people. Several last decades were the period of tentions between our countries and the attitude of the majority of the Americans towards the Soviet Union was rather negative. And now we have oceans of misunderstanding and distrust between our two countries. We passed those stereotypes to our children. But now we have to break them. And the opportunity to do this appeared thanks to the policy of your leader Mr. Garbachev. He started the "perestroika" not only in your country, but also in the international relations. We are very interested in these processes and we came here to understand them better. We are starting here an interesting dialogue of children of our two countries. And we hope very much that our children understand your life and your intentions and you understand us. Then in the future they will be able to become the captains who will lead us from the oceans of distrust and misunderstanding.*

*Photos by S. KRITSKY.*







# Friends Do Not Hold Out on You

For several years now the working people of Minsk, Vilnius, Riga and Tallinn have engaged in competition. Its results are annually summed up in one of these cities. This time the Byelorussian capital acted as host to the partners. Before discussing the results the members of the delegations had a look at the new micro-districts, visited the work collectives, exchanged their impressions with each other and assessed their achievements without concealing any secrets from one another.

Before signing the joint statement the leaders of the delegations spoke about how the towns and cities of the Baltic states and Byelorussia profited from their labour competition.

**Vladimir Galko**, First Secretary of the Minsk City CPSU Committee: "Each contestant has stronger and weaker features of his own. The Minsk residents have for four years provided all the increment of production volume only by getting up productivity of labour, without increasing the output of rolled products, ferrous metals and heat. We are telling our competitors how we achieve this. I'd like to quote an example. The proposals of the work collective council acting at the tractor factory are taken into account for developing programmes of improving the conditions of labour. The activists made a comprehensive estimate of the workplaces — a sort of an x-ray photograph of the enterprise and brought to light all the failings. Creative teams made up of specialists installed up-to-date equipment, the council succeeded in eliminating some other shortcomings. Such social formations acting in many working bodies is one of the forms of industrial democracy which enables workers to take an active part in managing the factory. I'd like to add to this the "I apply for higher performance standards" movement that is being launched and also taking up jobs in sections lagging behind with a view to getting the shop out of difficulties...

"As we looked closely at the joint statement we were confirmed in our conviction that there were things we ought to learn from our neighbours. Capital funds are speedily invested in Vilnius and Tallinn. The Riga builders achieve better successes in using up the sums allocated for civil engineering and installation work, they commission housing at a faster pace. Now we are well-acquainted with their experience of adopting the best methods of organization of trade and consumer services."

**Vladislovas Mikučiauskas**, First Secretary of the Vilnius City CPSU Committee: "The competition between Minsk and Vilnius started a quarter of a century back. Meetings devoted to sharing experience prove to everybody's advantage. For instance, our trade union functionaries at the Lenin production association have borrowed a number of forms and methods of individual competition and discussed the ways of solving social and everyday problems under the conditions of intensive production. In their turn, the Minsk representatives familiarized themselves with the economic studies as they are arranged at the radio instrumentation factory.

"We have recently made a close study of Minsk work collectives' experience of changeover to a multi-shift work schedule. We've set the task of bringing the high efficiency equipment shift rotation coefficient up to 1.81. Good results are yielded by the Vilnius railwaymen joining in the experiment of their Byelorussian colleagues, Riga's experience of improving public catering and consumer services in work collectives. Interesting work of rebuilding the older part of the city is being carried out in Tallinn.

**Yuri Gabelko**, Second Secretary of the Riga City Party Committee:

"We've learned a lot from our Minsk friends as regards ensuring all the growth of production volume at the expense of intensification factors, we've also adopted their system of control of the quality of products. Vilnius shared their experiences of monolithic construction and equipment of new micro-districts with public services and utilities. Tallinn succeeds in developing the social sphere and providing jobs at one's place of residence."

**Harry Loomi**, Chairman of the Tallinn City Executive Committee:

"Personal contacts with our partners in emulation help us run our economy in a thrifty way. As we follow the example of our Minsk friends we encourage competition between our teams which use cost accounting principles. We are trying to make the showing of the whole enterprise commensurate with the contribution of each individual member of the body of workers."

After the Second World War the Minsk residents raised their city from ruins and ashes and they take good care of their memorials of the past. The people of Minsk as well as visitors coming to the city can make a trip into past ages as they visit the Troitskoye Suburb. A few centuries back this was the place of a redoubt forming part of the city's defences. Now an inimitable architectural ensemble has been put up here. Such kind of approach to protecting monuments of the past has been borrowed from Vilnius and Riga. Their experience of bringing down costs of production and saving of resources has also been adopted.

...The first joint statements an the results of the first five-year period of competition was signed in a solemn atmosphere. There were neither winners nor losers, the successes of every individual were of benefit to all. It is of importance that the ties between towns should strengthen and contribute to the restructuring and acceleration of the national economy, as set down in the resolution of the January 1987 CPSU Central Committee Plenum.

# FACTS AND FIGURES

The new generation wristwatch devised by the production association "Integral" markedly differs from the previous models. Its case is considerably thinner and covered with alloys of various shades. But the main point is that the assembly of these watches is completely automated. The Minsk watchmakers do jobs on a level close to that of the leading foreign firms — the Minsk watch is not thicker than its Japanese counterpart. The "electronics" designers have managed to make a device regulating the accuracy of the time-piece, which is as yet absent from the timekeepers produced by other firms.

Without building new facilities the experts of the "Minskvodokanal" (public water supply management) have bettered the supply of drinking water and at the same time brought down its prime cost. The automatic control system introduced here for the first time in the republic has made it possible to determine the city needs round the clock and recommends optimal operation modes for the pumping and other equipment. Operation nearly without a hitch is ensured during the peak load time — the computer can also be depended upon in this respect.

Many problems, particularly acute for sick and lonely people, are proposed to be resolved by the home social service workers. This service has been initiated as an experiment by dozens of social security departments at the town and district executive committees. The services that old-age people can order by telephone are quite varied. The service workers bring foodstuffs, medicines, manufactured goods, organize hot dinners, act as go-between in rendering all kinds of multiple service. Over a thousand and a half war veterans are under the patronage of departments of social help.

One of the new streets of Grodno is named after the French town of Limoge. This decision is taken by the local town Soviet of People's Deputies in honour of the twinning contacts between the two towns. There is also friendship and fruitful co-operation between Minsk and Lyons, Gomel and Clermont-Ferrand, Mogilev and Villeurbanne and some other towns of our republic and France.

There are two words "Yanka Kupala" stamped in gold and the poet's bas-relief on the binding of a heavy volume. This unique book was brought out by the Byelorussian Soviet Encyclopaedia Publishers. It includes over three thousand articles concerned with everything that bears on the name of the great writer of lyrics. This is the third personal encyclopaedia among the analogous publications dedicated to Mikhail Lermontov and Taras Shevchenko.

## БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР НА ДАЛЁКІМ УСХОДЗЕ

# ДУХОЎНЫЯ ААЗІСЫ НАРОДА

Хто сёння можа згадаць пра такі патрыятычны рух беларускага настаўніцтва, як ахвярныя паездкі ў Сібір, да землякоў, каб працаваць там у нацыянальных школах? Яшчэ да вайны ў Мінску быў спіс усіх населеных пунктаў у Сібіры, дзе жылі беларусы. Бежанцы, перасяленцы... Колькі тысяч, мільёнаў пакінула Беларусь толькі за першую палову нашага стагоддзя? А калі ўлічыць выселеных у Сібір у 20-30-я гады?

Памяць пра нашых землякоў жыве ў сібірскім слове, у сібірскай песні. Ствараецца 60-томнае выданне «Помнікі фальклору народаў Сібіры і Далёкага Усходу». Жыве баларускі мелас у Паволжы і на Урале.

Два гады назад мы, выдавецкія работнікі, вучыліся ў Маскве на курсах павышэння кваліфікацыі. Тады і прызналася Таццяна Фядотава, рэдактар з Уладзівастока, што яна — наша зямлячка.

Таццяна Леанідаўна расказала, што яе родзічы паходзяць з Беларусі. Выехалі на Далёкі Усход пасля рэвалюцыі 1905—1907 гадоў, ратуючыся ад царскіх рэпрэсій. Яна добра памятала сваю бабку Ефрасінню Ляхаву — мудрую, таленавітую жанчыну, якая пакінула пасля сябе незвычайную спадчыну — свой жыццяпіс, сотні песень, прымавак, загадак, замоў, запісаных яе дачкой (а для Таццяны Фядотавай роднай цёткай) — Кацярынай Сысцеравай. К. Сысцерава далучыла да купы ўласныя запісы, запісы іншых сямейнікаў і знаёмых. Гадоў пятнаццаць гэты рукапісны том пыліўся ў складальніцы-фалькларысткі Л. Свірыдавай, пакуль Таццяна Фядотава не прапанавала яго выдавецтву Далёкаўсходняга дзяржаўнага універсітэта ва Уладзівастоку, дзе яна сама працуе.

Паабяцала нам у Маскве: як толькі зборнік выйдзе, прышле кнігу ў Мінск. І вось «Фольклор Дальнеречья» кружнымі шляхамі трапляе з Уладзівастока на Беларусь. На першае прачытанне томік быў перададзены супрацоўніцы Акадэміі навук БССР Ліі Салавей.

З кнігай «Фольклор Дальнеречья» можна пазнаёміцца ў бібліятэцы Саюза пісьменнікаў БССР. Але ні ў прадмове, ні ў каментарыях вы не вычытаеце цікавыя падрабязнасці пра радавод збіральнікаў фальклору.

Па сёння ў Гомельскім раёне ёсць вёска Глыбоцкае (цэнтр сельсавета і калгаса імя Уладзіміра Ільіча) і старажытныя Маркавічы (упамінаюцца з 1640 года) — цэнтр сельсавета і калгаса «Чырвоны сцяг».

Ефрасіння Ляхава нарадзілася ў сяле Глыбоцкім Гомельскага павета Маркавіцкай воласці Магілёўскай губерні. Яе дзявочае прозвішча — Агеенка. Але на Далёкі Усход сям'я прыехала як Маісееўцы. Бо Ананій Пятровіч, бацька Ефрасінні, быў агітатарам у Маркавічах, цудам выратаваўся ад арышту. А брат Ананія Рыгор служыў у Порт-Артуры. Ён, відаць, і паклікаў родзічаў на вольныя землі.

Таццяна Фядотава так пісала ў Мінск: «Бабуля мая была спакойнай і сціплай, вельмі цярплівай і працавітай. Умела вязаць, шыць на машынцы. Калі ні прыедзеш да яе, яна заўсёды знойдзе час і піражкі спячы, і казкі расказаць. Бабуля была эмацыянальным цэнтрам вялікай сям'і... Усіх сагравала сваёй цеплынёй.

Бацька мой, Ляхаў Леанід Мікалаевіч, таксама паспрыяў выхаду гэтай кнігі. Тое-сёе мы выкарысталі з яго ўспамінаў пра наш радавод. Ён ужо запоўніў некалькі агульных сшыткаў. Знайшоў, да прыкладу, фотаздымкі 1907 года маіх прадзеда з прабабкай, калі яны толькі прыехалі ў гэты край. Вельмі цікава піша ён пра сваіх продкаў.

Ужо не стала маёй цёткі — Кацярыны Сысцеравай (Ляхавай). Але паспела вось гэтую кнігу ўбачыць. Увогуле, яна парадавалася за зборнік.

Але ж трэба сказаць, што ў кнігу «Фольклор Дальнеречья» ўвайшла мо толькі палова з усяго таго, што сабрала яна і бабуля. На вялікі жаль, у гэты зборнік вельмі мала трапіла песень беларускіх — сямейна-бытавых, сацыяльна-сатырычных... А таксама — мала беларускіх казак. Вялікая каштоўнасць — бабуліны своеасаблівыя каментарыі да сваіх запісаў: як, кім і калі выконвалася тая або іншая песня. Заўвагі жывыя, з гумарам, са згадкамі аб канкрэтных падзеях. Яны таксама не паказаны ў зборніку. Ну і яшчэ бяда, што ўсе тэксты набраны рускім шрыфтам. Многія нюансы аказаліся страчанымі...»

І ўсё ж прыходзіцца парадавацца, што за тысячы кіламетраў ад Беларусі, на краі савецкай зямлі, да гэтага часу захоўваюцца духоўныя аазісы нашай нацыі, ёсць людзі, якія берагуць нягаснучыя скарбы продкаў. Пачэсны абавязак — вярнуць іх на радзіму, каб даць новае жыццё, узбагаціць нашчадкаў багаццем слова, песні, думкі папярэдніх пакаленняў. А заадно яшчэ раз ацаніць незнішчальную сілу талентаў нашых людзей, куды б яны ні траплялі воляю лёсу.

**Сяргей ПАНІЗНІК.**

# ЗБЕРАГЛОСЯ Ў ПАМЯЦІ СВАЁ

Выдавецтва Далёкаўсходняга універсітэта нядаўна апублікавала зборнік «Фольклор Дальнеречья», у якім шырока пададзена і беларуская вуснапаэтычная творчасць, сабраная ў тых краях. Кніга змяшчае цікавы матэрыял, неабходны для вывучэння розных пытанняў бытавання вуснай паэзіі па-за межамі ўласнага этнасу. Па ім можна меркаваць, як зберагаліся ў памяці высяленцаў з Беларусі скарбы традыцыйнага фальклору іх продкаў, як узаемадзейнічаў у новых умовах беларускі фальклор з творчасцю іншых славянскіх народаў, як фарміраваўся фальклорны рэпертуар новай, многанацыянальнай па паходжанні садружнасці людзей.

Зборнік змяшчае 912 твораў розных жанраў, а таксама прадмовы, каментарыі, спіс выканаўцаў-інфарматараў, слоўнік незразумелых слоў. Ён узнік не ў выніку ажыццяўлення навуковай праграмы, а хутчэй за ўсё сфарміраваўся на глебе захопленасці народнай творчасцю, паданнямі роднай сэрцу даўніны. Складальніцы зборніка Кацярына Сысцерава і Ефрасіння Ляхава — дачка і маці беларусаў-перасяленцаў. Пра само высяленне і жыццё сям'і на новай зямлі расказала Ефрасіння Ляхава. Яна трапіла туды малой дзяўчынкай, але шмат цікавага чула ад свайго дзядулі, які памёр у 1913 годзе, маючы 117 гадоў. Паводле яе ўспамінаў, гэты стары чалавек вельмі любіў чытаць кнігі гістарычнага зместу, сярод якіх памятная ёй «Могилев, его прошлое и настоящее». Ефрасіння Ляхава і яе сёстры паступова самі сталі носьбітамі народнай творчасці далёкай іх радзімы — Беларусі. Відаць, ад яе перадалася цікавасць да фальклору яе дачцэ Кацярыне Сысцеравай, настаўніцы па прафесіі. Калі тая пачала збіраць фальклор, Ефрасіння Ляхава спачатку толькі спявала ці дыктавала песні, а потым пачала запісваць сама, што ведала, што ўспаміпала. Такім чынам ад маці і ад цётак Кацярына Сысцерава атрымала найбольш дасканалыя ўзоры беларускага традыцыйнага фальклору. Наогул у спісе інфарматараў пададзена 87 асоб, з іх беларусаў — 13, украінцаў — 20, рускіх — 35 і 19 асоб, звесткі пра нацыянальнасць якіх не пададзены. Зрэшты, з вызначэннем нацыянальнай прыналежнасці ў такім асяроддзі даволі складана: сама Кацярына Сысцерава піпацца рускай, але ж яе маці, дзядзькі і цёткі — беларусы.

Матэрыял зборніка разнастайны: празаічныя жанры, прыказкі, прымаўкі, загадкі, замовы, абрадавыя і пазаабрадавыя песні, дзіцячы фальклор і іншае. Найбольшую каштоўнасць для нас уяўляюць абрадавыя песні. Як адзначала Л. Свірыдава ва ўступным артыкуле, аграрна-каляндарныя абрады і песні даўжэй за ўсё захоўваліся на Далёкім Усходзе ў беларусаў і ўкраінцаў. «Пераважная большасць тэкстаў у гэтым раздзеле зборніка (песні абрадавыя — **Л. С.**) — беларускія і ўкраінскія, — піша даследчыца. — Каляндарныя абрады ў цяперашні час адышлі з народнага побыту амаль цалкам, а песні і ўспаміны пра тое, як адбываліся абрады, захаваліся ў памяці старога пакалення далёкаўсходнікаў». Песні далёкай радзімы, відаць, былі дарагія не толькі аднаму пакаленню высяленцаў, бо вось ужо на працягу амаль стагоддзя людская памяць зберагае шматлікія творы традыцыйнага беларускага фальклору нязменнымі ва ўмовах панавання рускамоўнай стыхіі. Шкада толькі, што руская графіка не перадае дакладна іх гучання, але і так, нібы праз напаўпразрыстую заслону, праступае часта нескажоны воблік песні, яе мовы:

**Ой, весна, весна,**
**Чего нам принесла?**
**А нашим пчёлкам —**
**Раннего мёду,**
**Худобе нашей**
**Дай бог приплоду,**
**А старым бабам —**
**У скрыню грошей...**

Гэтаксама ў калядных песнях:

**Ого-го,коза, ого-го, сера!**
**А ты расказися,**
**а развеселися,**
**А старшему пану в ножки**
**кланяйся,**
**А господыни, чтоб подарили...**

**Ходит Илья коло Василя,**
**Носит пугу дротяную,**
**плетеную.**
**Где пугой махне, там жито**
**расте,**
**А пшениченька вылягае...**

Акрамя фальклорнага матэрыялу зборніка, навуковую каштоўнасць уяўляюць таксама каментарыі, кароткія ці разгорнутыя, у якіх адзначаецца не толькі інфарматар і характар песні («щедровка белорусская», «украинская колядка»), але і розныя абставіны этнаграфічнага плана, пры якіх выконвалася песня. Цікавая заўвага-ўспамін Ефрасінні Ляхавай да песні «Шыла Машачка тры шырыначкі» (калядная) з прыпевам «Маша, Машачка панья (!), гавары з намі ціхенька!»: «Мне добра запомніліся на Захадзе калядныя святы. Вечарам збярэцца моладзь са смехам, з жартамі, і ідуць па сялу ад хаты да хаты. Падойдуць пад наша вакно, а ў нас дзяцей многа, вот яны і пытаюць, каму спець песню. Нашы жанчыны ў вакно крыкнуць ім. У мяне была сястрычка Маша гадоў трох і брат Федзя. Вот Машы і запелі гэту песню. Потым Машу захутваюць у цёплае паліто, нясуць яе на двор, і яна з сваіх рук дарує спева грошы ці ласункі».

Складанасць этнічнага асяроддзя адбілася і на ўпарадкаванні зборніка. Асобныя раздзелы дэманструюць перавагу ўкладу пэўнага этнасу ў агульны рэпертуар — у каляндарна- і сямейнаабрадныя раздзелы найбольш важкі ўклад унеслі беларусы і ўкраінцы, неабрадавыя песні — па-іншаму. «Рускія, украінскія і беларускія песні пра каханне», «Сямейна-бытавыя песні рускіх, беларусаў і ўкраінцаў» — так гучаць назвы раздзелаў. Раздзелы ж «Песні казацкія і салдацкія», «Даўнія песні турмы, катаргі і ссылкі», «Дарэвалюцыйныя сацыял-сатырычныя песні» і некаторыя іншыя ўключаюць творы амаль толькі рускія.

Нягледзячы на тое, што беларусы-перасяленцы жылі ў паселішчах разам з рускімі і ўкраінцамі (хоць і асобнымі «канцамі») і абменьваліся сваімі песнямі, казкамі, яны да нашых дзён адчуваюць, дзе «сваё», дзе — «чужое».

У зборніку «Фольклор Дальнеречья» апублікаваны пераважна варыянты сюжэтаў, вядомых нам па беларускіх публікацыях, але трапляюцца і пэўныя новыя нечаканыя залацінкі, якія варта ўзяць на ўлік беларускім даследчыкам. Нашай шчырай удзячнасці заслугоўваюць складальніцы зборніка, працай якіх узведзены гэты помнік народнай культуры. Хочацца спадзявацца, што работа па збіранню і публікацыі каштоўнага беларускага фальклору па-за межамі рэспублікі працягнецца, а самі публікацыі больш дакладна перададуць моўныя асаблівасці народных твораў, будзе дададзены нотны матэрыял, а можа быць і грампласцінкі з запісамі лепшых твораў.

**Лія САЛАВЕЙ,**
**кандыдат філалагічных навук.**

## З НОВЫХ ВЕРШАЎ

Рыгор БАРАДУЛІН

### НАБЕЛА!

Беларусь,
Цябе задумаў лёс,
Надзяліўшы борам,
А не морам,
Даў дазвол наплакаць
Мора слёз,
Каб узяў тваіх суседзяў сорам.

Беларусь,
Цябе падвысіў лёс,
Даў пагоркі,
Абдзяліў гарамі,
Каб сябе высока гнеў узнёс,
Ад якога б ворагі згаралі.

Беларусь,
Цябе прынізіў лёс,
Памяць даў,
Што забывае часам
Мову — суразмоўніцу нябёс,
Верачы падзалачоным чашам.

Беларусь,
Цябе прымроіў лёс
Гонцінкаю зорнага падстрэшша,
Каб гісторыя свой везла воз,
На тваіх ухабах парастрэшшы.

Беларусь,
Цябе акрэсліў лёс,
Як развага на чало набегла,
Русь
Ён без чарнавікоў занёс
На скрыжалі
Белую —
Набела!

Міхась ШЭЛЕХАЎ

### ПРЫПЯЦКІ ЛІСТ

Любоў мая — такая дробязь! —
Лісток дубовы на зямлі:
У жніўні — шчырая аповесць,
Вясной — як памяць на раллі.

Мой белы край, мой каляровы!
Мой белы, мой сялянскі род!
Ты звёў, як крылы, свае бровы —
І ў неба ўзняўся самалёт.

Зялёная раскоша лета,
Лясун, кавалік і дудар!
Вясёлай часткаю сусвету
Жыве твой зорны каляндар!

Мой край, ружовы і блакітны,
Вятрам вясновым і зіме,
Бы ветразь, ты заўжды адкрыты —
Сусвет у парусіну дзьме!

Жыві, любоў мая, ў блакіце,
Каб ахінуць і прытуліць!
...Лісток дубовы,
край мой Прыпяць,
Не адбаліць, не адляціць!

### ГАСПАДАРЫ СУСВЕТУ

Тыя, што дол барануюць,
Тыя — і зоркі бароняць...
Сэрца заплача — пачуюць.
Розум забудзе — напомняць.

Сведкі бясконцага свету —
Вы, землякі мае, продкі...
Што так засмучана лета!
Дрэнныя метэазводкі!

Ціха жывуць агароды,
Ціха цвіце наваколле.
Нудзіцца ціха прырода
Нашым вясковым болем!

Будзе вясна — не загінем.
Выспее ў жніўні і песня.
Згіне ад працы ў краіне
Непагадзь, вусені, плесня!

Ведаюць зоркі і чуюць
Нашу вясковую споведзь!
...Тыя, што дол барануюць,
Тыя — і зоркі бароняць.

### *УСЕНАРОДНАЯ ЗАЦІКАЎЛЕНАСЦЬ У ПЕРАМЕНАХ*

# АД СЛОЎ — ДА СПРАВЫ

ГОД 1988-мы абяцае быць для савецкай мастацкай культуры больш складаным і цяжкім, чым два папярэднія.

У 1986—1987 гадах у атмасферы небывалага энтузіязму і зацікаўленасці прайшлі з'езды творчых саюзаў — кінематаграфістаў, пісьменнікаў, тэатральных дзеячаў... З'езды ў многім пераломныя, якія распрацавалі канцэпцыі перабудовы прымяняльна да тэатра, кіно, літаратуры. Кінематаграфісты вылучылі і дабіліся зацвярджэння базавай мадэлі кінематографа. Яна мяркуе пераход ад адміністрацыйных метадаў кіравання кінапрацэсам да эканамічных, творчую і эканамічную самастойнасць студый.

Тэатральныя дзеячы пасля доўгіх дыскусій адобрылі комплексны тэатральны эксперымент, своеасаблівую тэатральную рэформу, якая адпавядае духу перабудовы грамадства. Тэатры атрымалі шырокую самастойнасць у творчых, арганізацыйных і фінансавых справах. Дэмакратычныя перамены закранулі дзейнасць пісьменнікаў, мастакоў, архітэктараў, дызайнераў, работнікаў выдавецтваў.

1988-мы — год пачатку, умоўна кажучы, другога этапу перабудовы ў мастацтве, калі ад слоў прыйшоў час пераходзіць да справы. Цяпер узнікла якасна новая сітуацыя. Абвастрыліся спрэчкі, сутыкнуліся інтарэсы розных груп. І многія прыхільнікі эксперыментаў, новых мадэлей, барацьбіты супраць шэрасці і кан'юнктуршчыны крыху паніклі. Новае стала іх насцярожваць і палохаць, а старое некаторым здаецца не такім ужо дрэнным і застойным. З'явіліся сумненні, трывогі і нават адкрытае супрацiўленне пераменам.

Спачатку пра сумненні і трывогі. Іх сутнасць можна выказаць у наступных пытаннях. Ці не прывядзе, у прыватнасці, гаспадарчы разлік і самафінансаванне ў мастацтве да таго, што ўсё будзе вырашаць непадрыхтаваная публіка? Што «зялёнае святло» атрымаюць аблегчаныя кнігі, фільмы, спектаклі, а сур'ёзнае, глыбокае застанецца недзе на задворках? Што самымі папулярнымі жанрамі стануць меладрама і дэтэктыў, а высокае, таленавітае, тонкае акажацца непрызнаным?

Думаецца, апаскі гэтыя дарэмныя, знешне яны сур'ёзныя, а ў прынцыпе надуманыя. Савецкія чытачы і гледачы, якія змаглі зразумець і ацаніць Талстога і Дастаеўскага, Шэкспіра і Гётэ, Сэрвантэса і Стэндаля, а сёння — Платонава, Ахматаву і Булгакава, у стане аддзяліць зерне ад пустазелля. **Сапраўдныя** непрызнаныя геніі — з'ява надзвычай рэдкая, да таго ж час усё роўна зробіць іх прызнанымі. Так што справа не ў іх... Сапраўднаму таленту перабудова не страшная. Яна страшная бяздарнасцям.

Тое, што глядач (чытач) думае, у такой жа меры вызначаецца ўзроўнем яго развіцця, як і якасцю спектакля (кнігі). Памылкова не ўлічваць густы і жаданні гледачоў і чытачоў, гэтак жа, як нядобра заўсёды і ва ўсім патураць гэтым густам. Глядач і чытач, а дакладней, народ — гэта своеасаблівая дзяржпрыёмка ў мастацтве. Менавіта яны без намёкаў і рэверансаў называюць рэчы сваімі імёнамі. Успомнім, як яны прынялі «Ціхі Дон» Шолахава, зусім не аблегчаны фільм Калатозава «Ляцяць жураўлі», пастаноўкі Станіслаўскага, Вахтангава, Таірава, Яфрэмава...

Можна зразумець апаскі прыхільнікаў авангардысцкіх плыняў. Забаронены плод, як вядома, салодкі. Цяпер забароны і абмежаванні зняты, і авангардысцкі плод ужо не выклікае ранейшага ажыятажу. Не трэба быць прарокам, каб прадказаць: папулярнасць у шырокага кола гледачоў і чытачоў творы авангардыстаў мець не будуць. Але ў даным выпадку пытанне стаіць не як «рэалізм ці мадэрнізм», а як мастацтва і немастацтва.

Цяпер аб супраціўленні. Яно чакалася. Сутыкненне думак непазбежна і натуральна, таму што перамены, якія адбываюцца ў краіне, рэвалюцыйныя. Працэс перабудовы ўвогуле, і ў мастацкай культуры ў прыватнасці, не можа адбывацца без барацьбы. У творчых саюзах нямала людзей выпадковых, прафесійна слабых, не мастакоў, а рамеснікаў. Прынцыпы спаборніцтва, конкурснасці, публічнасці іх не задавальняюць. Яны за ўраўнілаўку. За пастаянны, незалежны ад якасці створанага і думкі грамадскасці ганарар. Яны супраць рэформ і перамен, якія адчувальна закранаюць іх інтарэсы, ставяць пад сумненне само іх права называцца пісьменнікамі, мастакамі, артыстамі.

Перабудова і публічнасць нясуць з сабой пагрозу іх сацыяльнаму становішчу, прэстыжу, уладзе. Наўрад ці можна пераканаць гэтых людзей добраахвотна адмовіцца ад сваіх прывілей, ад сваіх маленькіх райкоў і наседжаных месцаў. Рай, як сведчыць Біблія, не пакідаюць, з раю выганяюць...

На нядаўняй сустрэчы ў ЦК КПСС з кіраўнікамі сродкаў масавай інфармацыі, ідэалагічных устаноў і творчых саюзаў першы сакратар праўлення Саюза кінематаграфістаў СССР Элем Клімаў гаварыў аб праціўніках перабудовы ў кіно.

«Яны адкрыта заклікаюць, — сказаў ён, — вярнуцца да тых часоў, калі з пэўнага цэнтра пэўным людзям прызначалася, які фільм ставіць. Яны хочуць, каб, як раней, захавалася чарга на пастаноўку карціны, каб кожны па чарзе ставіў свой фільм. За дзяржаўныя грошы, натуральна. Але ці тая гэта справа — творчасць, калі кожны павінен працаваць, захоўваючы прынцып чарговасці? Наша рэформа мае на ўвазе творчае спаборніцтва. Толькі цікавая, праблемная, праўдзівая задума, забяспечаная талентам ствральнікаў, мае права на пастаноўку. Цяпер, як, магчыма, ніколі раней, праявілася масавая зацікаўленасць жыць і тварыць паіншаму».

Мусіць, гэта і самае галоўнае — усенародная зацікаўленасць у пераменах. Яна — залог незваротнасці перабудовы. У тым ліку і ў савецкай мастацкай культуры.

**Гаўрыіл ПЕТРАСЯН.**

### АРГЕНЦІНСКІЯ СУСТРЭЧЫ МІКАЛАЯ СКОРЫКАВА

# *ДУША РВЕЦЦА ЗА МАРАЙ*

Пасля маёй паездкі ў Аргенціну прайшло ўжо амаль паўгода. Але ўражанні ад сустрэч з землякамі — жывыя, не забываюцца. Як быццам я пабываў не ў далёкім замежжы, а сустрэўся з лепшымі сябрамі, якіх даўно ведаю. Тым больш, што з некаторымі з іх у мяне існуе цяпер трывалая сувязь. Пастаянна атрымліваю пісьмы і віншавальныя паштоўкі. Вось адзін з лістоў: «Добры дзень, наш дарагі і далёкі сябар Мікола! Нарэшце мы зрабілі фота, і спяшаюся выслаць іх. Думаю, для вас гэта будзе памяць пра паездку, пра сустрэчы ў клубах. Калі ў вас захаваліся добрыя ўспаміны пра Аргенціну — гэта будзе лепшай узнагародай для нас. У нас жа засталіся вашы цеплыня душы і шчырасць, якія вы падарылі нам разам з цудоўнымі беларускімі песнямі. Вы прывезлі нам цеплыню і спагаду Радзімы.

Калі шляхі-дарогі прывядуць вас яшчэ калі-небудзь у гэту краіну, заўсёды чакаем да нас у госці, як роднага, блізкага чалавека».

Напісалі мне такое пісьмо Алена і Павел Дарчукі. Я дзякую ім за запрашэнне. З мужам і жонкай Дарчукамі, чые бацькі некалі выехалі ў Аргенціну, я пазнаёміўся ў адным з клубаў Буэнас-Айрэса. Яны людзі інтэлігентныя, адукаваныя. Абодва працуюць урачамі. І, між іншым, медыцынскую адукацыю атрымалі ў Савецкім Саюзе.

У Буэнас-Айрэс мы прыехалі летась 1 лістапада. У нас у гэты час ужо восень, холадна. А тут — усё цвіло. Землякі чакалі і сустракалі нас з кветкамі... Мы былі аднымі з першых, хто наведаў Аргенціну пасля палітычных «замаразкаў».

Акрамя мяне, тут былі журналісты, вядомая кінаартыстка Л. Касаткіна, спявачка з Кіева М. Іваненка, музыканты.

У Буэнас-Айрэсе жывуць выхадцы з розных краін. Ёсць і рускія, украінцы, літоўцы. Але самая шматлікая эміграцыя — беларуская.

Эмігранты маюць у сталіцы свае культурныя цэнтры. Мы пабывалі ў клубах «Дняпро», «Усход», «Аўрора», імя Астроўскага, імя Бялінскага, імя Горкага, імя Маякоўскага. Як правіла, у клубах змешаны састаў. А ва «Усходзе», напрыклад, б[illegible]шасць беларусаў. Усе гэтыя патрыятычныя арганізацыі рыхтаваліся адзначыць 70-годдзе В[illegible]й Кастрычніцкай сацыялісты[illegible] рэвалюцыі. Сапраўдным падарункам для іх быў прыезд савецкіх артыстаў.

Нас адразу ўзялі пад сваю апеку суайчыннікі. Усюды вазілі, паказвалі і расказвалі, з бясконцай гасціннасцю прымалі ў сябе дома, частавалі нацыянальнымі беларускімі і аргенцінскімі стравамі.

У другой палове дня ў клубе звычайна наладжвалася культурная праграма. Я спяваў беларускія народныя песні, а таксама рускія і ўкраінскія. Мы не паспявалі адказваць на дзесяткі пытанняў, з якімі звярталіся да нас людзі. Усім хацелася ведаць, як у нас ідзе перабудова, што адбываецца зараз у іх на Радзіме, як жывуць людзі. (Дарэчы, асноўнай крыніцай інфармацыі для многіх тут з'яўляецца газета «Голас Радзімы»). І ў той жа час яны расказвалі, як вядуць у сваіх клубах культурна-асветніцкую работу, наладжваюць канцэрты, у якіх удзельнічаюць і дарослыя, і дзеці. Тут жа, у клубах, ёсць і магнітафонныя запісы нашых песень, і пласцінкі, і бібліятэкі з падручнікамі, па якіх моладзь вывучае мову.

У Буэнас-Айрэсе нам давялося прыняць удзел у вялікім публічным канцэрце на пляцоўцы тэатра «Аўстраль». У адной праграме павінны былі выступіць вядучыя аргенцінскія артысты, аркестр нацыянальнай музыкі. Гэта быў суботні дзень, а па традыцыі культурныя мерапрыемствы ў выхадны дзень тут пачынаюцца позна вечарам і заканчваюцца ноччу. Уяўляеце, як я хваляваўся, калі заспяваў «Мой родны кут»... Але мяне падтрымалі гарачымі апладысментамі тэмпераментныя аргенцінскія гледачы. А потым я выконваў беларускія народныя песні «У месяцы верасні», «Зелянеюць лугі», песні савецкіх кампазітараў. На канцэрце таксама было многа і суайчыннікаў. Яны размясціліся ў першых радах, і я мог бачыць іх усхваляваныя твары.

Калі ў сталіцы мы жылі ў гасцініцы «Эсмеральда», то ў курортным гарадку Мар-дэль-Плата, дзе былі два дні, пасяліліся разам з баяністам Генадзем Сакаловым у суайчынніка Леана Гольшміта. І мелі магчымасць блізка пазнаёміцца з гэтым чалавекам, яго сям'ёй, «знутры» паглядзець на праблемы эмігрантаў, лепш адчуць іх лад жыцця. Леан з тых, хто наогул няблага ўладкаваўся ў Аргенціне. Ён мае сваю вілу, магазін. Неблагі камерсант і паважаны чалавек. Бацькі — выхадцы з Беларусі, а яго дзеці нарадзіліся ў Аргенціне. Яны разумеюць мову бацькоў, аднак размаўляць ужо не могуць. І гэта засмучае Леана.

Леан, хаця ні разу не быў на Радзіме і ўяўляе яе толькі па расказах бацькоў і знаёмых, шануе край сваіх продкаў. Удзельнічае ў рабоце патрыятычных арганізацый.

Мы з ім неаднойчы шчыра гутарылі. Леан неяк сказаў, што пачынае думаць пра вяртанне ў Беларусь, цікавіўся нашымі кааператывамі, гандлем. Мне здаецца, што ён, як чалавек неардынарны, з развітым пачуццём самасвядомасці і годнасці, нягледзячы на ўвесь знешні жыццёвы дабрабыт, адчувае нейкі духоўны дыскамфорт.

У час паездкі я гутарыў з многімі суайчыннікамі, якія таксама марачь аб паездцы на радзіму бацькоў, але не кожнаму, зразумела, абставіны дазваляюць ажыццявіць планы. Доўгія гады жыцця прывязалі іх да гэтай краіны. Тут нарадзіліся і выраслі дзеці і ўнукі. Некаторыя так і не змаглі назбіраць грошай на паездку. А душа ўсё роўна рвецца ўслед за марай. Яна як бы дзеліцца на дзве часткі. Як у майго сябра Леана з Мар-дэль-Плата.

Ад усіх маіх землякоў, якія жывуць у Аргенціне, я прывёз паклон роднай зямлі. Чакаю пісьмаў ад сваіх новых сяброў. І шлю прывітанне Леану Гольшміту, Івану Скрыпнюку, Таццяне Цырульнікавай, сям'і Дарчукоў, Вользе Вазнюк, Сцяпану і Веры Коржыкам, а таксама ўсім, з кім пазнаёміўся і пасябраваў у Аргенціне. Жадаю ім здароўя, шчасця і міру.

**Запісала Таццяна АНТОНАВА.**



**Не так даўно на студыі мультыплікацыі кінастудыі «Беларусьфільм» з'явілася новая творчая майстэрня рэкламнага кіно. Выконваючы заказы «Саюзрэкламкіно», мультыплікатары, мастакі, рэжысёры стварылі ўжо некалькі фільмаў. Сярод іх «Элікон-Аўтафокус», «Разліковы чэк», «Юрузань-7».**

**Новая майстэрня — своеасаблівая школа мультыплікацыі і рэжысуры для тых, хто спрабуе свае сілы ў гэтым мастацтве.**

**НА ЗДЫМКАХ: кадр з рэкламнага мультыплікацыйнага роліка «Чэкавая кніжка»; над чарговым рэкламным фільмам працуюць рэжысёр Марына ДЗЕЛУН і мастак Ала БУЛАЙ.**

**Фота Л. КЛІМАНСКАГА.**



*ЦІКАВА ВЕДАЦЬ*

# НА СТАРАЖЫТНЫХ МОГІЛКАХ

На тэрыторыі беларускага Панямоння часта сустракаюцца старажытныя могільнікі, якія ў айчыннай археалагічнай літаратуры атрымалі назву — каменныя магілы. Размяшчаюцца яны, як правіла, на пагорках з сухім пясчаным грунтам, уздоўж рэк, групамі па дзве-тры і больш. У асноўным яны сканцэнтраваны ў Гродзенскай вобласці, нязначная колькасць — на поўдні Віцебскай, поўначы Брэсцкай, у Барысаўскім раёне Мінскай абласцей.

У канцы XIX стагоддзя вядомы беларускі археолаг В. Шукевіч—першаадкрывальнік і даследчык каменных магіл — вывучаў іх на тэрыторыі сучасных Воранаўскага і Шчучынскага раёнаў. Атрыманыя матэрыялы аб даследаванні помнікаў В. Шукевіч часткова перадаў у Эрмітаж у Ленінградзе, у Віленскі музей старажытнасцей (зараз яны знаходзяцца ў гісторыка-этнаграфічным музеі ў Вільнюсе). Значная частка рэчаў заставалася ў асабістай калекцыі даследчыка, але, на вялікі жаль, да нашага часу не захавалася. В. Шукевіч упершыню правёў аналіз гэтых помнікаў і выказаў шмат правільных здагадак па этнічнай гісторыі насельніцтва краю.

Мінула амаль сто гадоў пасля выхаду работ В. Шукевіча. Развілася методыка археалагічных даследаванняў. Паўстала задача больш дасканалага вывучэння помнікаў археалогіі, да якіх адносяцца і каменныя магілы. Даследаванне іх дапаможа ўдакладніць пытанне аб паходжанні беларускага народа, яго светапоглядзе, узроўні развіцця вытворчасці, сацыяльным становішчы тагачаснага насельніцтва. З гэтай мэтай і па заказу Рэспубліканскага музея атэізму і гісторыі рэлігіі ў Гродне ў чэрвені 1986 года на каменным могільніку «Барок» каля вёскі Бензаўшчына, што ў Шчучынскім раёне на Гродзеншчыне, праводзіліся археалагічныя даследаванні трыццаці пахаванняў.

Як і ўсе могільнікі гэтага тыпу, ён знаходзіцца на ўзвышшы. Магілы размешчаны не толькі на пляцоўцы ўзгорка, але і на схілах, не дасягаючы падножжа. У размяшчэнні магіл назіраецца радковая сістэма. А ў ёй існуе свая заканамернасць: магілы размешчаны групамі па 2—3 і больш на рознай адлегласці адна ад адной, што дазваляе гаварыць пра сямейны звычай пахавання. *Кожная магіла абкладзена камянямі ў адзін слой.* У галаве пахаванняў ставілі камяні вялікіх памераў, круглаватай формы, без слядоў штучнай апрацоўкі. Пад каменнымі кладкамі, у слаі цёмнай зямлі, знаходзіліся кавалкі керамічнага начыння, якія сведчаць аб трызне, што рабілі на магілах нябожчыкаў. Глыбіня магільных ям ад 0,7 да 1 метра. У запаўненні іх прасочаны вугальныя праслойкі, якія не дасягалі касцей шкілетаў, таўшчынёй 12-15 сантыметраў. Побач з магіламі даволі часта выяўлялі невялікія вогнішчы, вуголле з якіх выкарыстоўвалі ў час пахавальнага абраду. У некаторых магілах вуголле шырынёй 1,5-2 сантыметры знаходзіцца вакол шкілетаў. Стварaецца ўражанне, што вакол нябожчыка выкладалі галінкі і падпальвалі іх. Адзначаныя асаблівасці пахавальнага абраду вядуць сваё паходжанне ад абраду трупаспалення. Прыкладна ў канцы IX — пачатку X стагоддзяў адбыўся пераход ад абраду трупаспалення да абраду трупапалажэння. Але пераход гэты быў не простым адмаўленнем ад старога абраду. Стары звычай быў перанесены ў новы ў выглядзе сімвала — цяпер замест нябожчыка палілі галінкі. Тым не менш зрэдку вярталіся і да старога абраду, як гэта было зафіксавана ў адным з пахаванняў.

Часцей за ўсё нябожчыкаў хавалі ў труне, аб чым сведчаць рэшткі струхлелых дошак вакол шкілетаў. Аднак не заўсёды гэта была труна ў сучасным паняцці. Большасць пахаваных была проста абстаўлена з бакоў і зверху дошкамі, не змацаванымі паміж сабой. У асноўным пахаваныя ляжалі на спіне. У двух выпадках былі пакладзены на левы бок. Рукі нябожчыкаў ляжалі па-рознаму: складзены на грудзях, на жываце, уздоўж цела, скрыжаваны на грудзях і г. д. Ляжалі нябожчыкі галавой на поўдзень ці паўднёвы захад, зрэдку — на захад.

У пахаваннях сустрэты разнастайны пахавальны інвентар. Па язычніцкаму звычаю ў магілы нябожчыкаў клалі ўсё тое, чым яны карысталіся пры жыцці. Адпаведна, у залежнасці ад становішча, якое чалавек займаў у грамадстве, выдзяляюцца пахаванні багатыя і больш простыя. У жаночых пахаваннях сустрэты розныя ўпрыгажэнні: скроневыя кольцы з пацерак, якія мацаваліся да галаўнога ўбору з дапамогай стужкі або вяровачкі ці проста ўпляталіся ў валасы; пярсцёнкі, фібулы (прататып сучасных брошак), якімі зашпілялі адзенне (дарэчы, яны былі шырока распаўсюджаны сярод балцкага насельніцтва ў X—XIV стагоддзях). Сустрэты тут і жалезныя нажы ў скураных арнаментаваных похвах. У мужчынскіх пахаваннях знойдзены сякеры, нажы ў похвах, спражкі з кавалкамі дзягі. У адным выпадку дзяжка была ўпрыгожана бронзавымі заклёпкамі. Сабраны тачыльныя брускі, крэсівы з крэменем (для высякання агню), шпора з кавалкам стрэмя, фібула, пярсцёнак, акоўка на кеску (папярэднікі сучасных кашалькоў), паясныя жалезныя кольцы, якія звычайна насілі на поясе з правага ці левага боку і да якіх прывешвалі розныя рэчы, напрыклад, нажы, тачыльныя брускі, крэсівы.

Мяркуючы па знойдзеных рэчах, узровень развіцця вытворчасці ў той час быў даволі высокім. Асабліва добра гэта бачна па ювелірных вырабах. Мясцовыя рамеснікі былі не толькі добрымі майстрамі сваёй справы, але і мелі тонкі мастацкі густ.

Могільнік «Барок» з'яўляецца самым старажытным і пакуль што адзіным сярод даследаваных помнікаў гэтага тыпу. Асаблівасці пахавальнага абраду і інвентар, знойдзены ў магілах, дазваляюць датаваць яго рубяжом X-XI— пачаткам XII стагоддзяў. З пункту гледжання этнічнага паходжання пахаванае тут насельніцтва было змешаным — балта-славянскім.

Атрыманыя матэрыялы з даследаванага могільніка дапамогуць у стварэнні адпаведнай экспазіцыі ў Музеі атэізму і гісторыі рэлігіі.

**Ала КВЯТКОЎСКАЯ.**

**НА ЗДЫМКУ: малюнкі пахавальнага інвентару могільніку «Барок» каля вёскі Бензаўшчына. 1—2 фібулы, 3 — скроневыя кольцы, 4 — крэсіва з крэменем, 5—7 — пярсцёнкі, 8 — дзяга з бронзавымі заклёпкамі і спражкамі, 9 — акоўка на кеску, 10 — нож у скураных арнаментаваных похвах, 11 — сякера, 12 — тачыльны брусок.**



**Дом Сямёна Шаўрова знешне нічым не адрозніваецца ад усіх іншых на вуліцы Красіна ў Оршы, а ўнутры ён сапраўдны музей, у якім мноства розных фігурак з каранёў і мудрагелістых сучкоў. Звыш 300 работ выйшла з-пад разца гэтага самабытнага рэзчыка, былога рабочага завода «Легмаш». НА ЗДЫМКУ: Сямён ШАЎРОЎ за работай.**

**Фота Я. КАЗЮЛІ.**

*У ВАШУ КАЛЕКЦЫЮ*

# КРОК У БЕССМЯРОТНАСЦЬ

Нядаўна мая калекцыя паштовых выпускаў пра Беларусь папоўнілася цікавым канвертам, выпушчаным Міністэрствам сувязі СССР. На ім паказаны помнік, адкрыты ў невялікім беларускім гарадку Дзятлаве, што на Гродзеншчыне. Помнік устаноўлены ў скверы на перакрыжаванні вуліц Чырвонаармейскай і Першамайскай, насупраць Дзятлаўскага музея народнай славы. Урачыстае адкрыццё яго адбылося 5 чэрвеня 1980 года.

Вясной 1942 года ў Ліпічанскай пушчы з'явіліся партызанскія групы. Селянін Іосіф Філідовіч і яго сын сталі іх сувязнымі і праваднікамі.

Па просьбе партызан Філідовіч знайшоў надзейнае месца для арганізацыі партызанскага шпіталя.

У снежні 1942 года фашысты пачалі карную экспедыцыю супраць Ленінскай брыгады. Ім стала вядома аб партызанскім шпіталі. Раніцай 16 снежня ў вёсцы Пушча Ліпічанская з'явіўся атрад эсэсаўцаў. Уварваўшыся ў дом Філідовічаў, яны патрабавалі адвесці іх у партызанскі шпіталь. Аднак павёў Іосіф Юр'евіч ворагаў у другі бок — да лясной багны, да незамерзлага непраходнага балота. Нямнога фашыстаў засталося жывымі. Не вярнуўся дамоў і І. Філідовіч.

Толькі праз 38 год вярнуўся ў родныя мясціны беларускі Сусанін, увасоблены ў камені. На паўметровым гранітным пастаменце ўзвышаецца фігура ў тры з паловай метры, адлітая з сілуміну. Гэта селянін у кажуху, без шапкі, з дубовай палкай у руках — сімвал народнай вайны. Па гранітнай сцежцы беларускі селянін робіць свой першы крок у бессмяротнасць, на твары яго — мужнасць і рашучасць. Аўтар помніка беларускі скульптар А. Салятыцкі.

За гераізм і мужнасць, праяўленыя пры выратаванні партызанскага шпіталя, Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР І. Філідовіч узнагароджаны пасмяротна медалём «За адвагу».

На мастацкім канверце — надпіс на рускай і беларускай мовах: «Дзятлава Гродзенскай вобласці. Помнік І. Ю. Філідовічу, які паўтарыў у снежні 1942 года подзвіг Івана Сусаніна».

**Леў КОЛАСАЎ.**

*РОДНАЕ-БЛІЗКАЕ*

# ПЯВУЧАЯ ІМКЛІВАСЦЬ

Стала звычкаю надвячоркам выходзіць на бераг Нёмана. Стаю, паветра светлае, прахаладнае. Вербы і явары яшчэ голыя, таму празрыстыя. Праз іх ляцяць пявучыя вясновыя лагодныя вятры. Імклівыя паводкавыя каламутныя воды ў перапоўненых берагах ірдзяцца ў промнях вечаровага сонца. То тут, то там пад вербамі над вадою машкара куццю таўчэ. Іх стаўбуны то знікаюць ад подыху ветрыка, то зноў з'яўляюцца з цішым матнатонным піскам.

Нёман, як і кожная рэчка, мае свой характар, свае капрызы, сваю звычку. Чалавек, як вяршыня прыроды, абавязаны ведаць характар свае ракі і не перашкаджаць ёй. Памятаю, нашы вяскоўцы хацелі ўтаймаваць яе сілу і там, дзе яна рве берагі, пасадзілі лозы.

Не быць гэтаму, вырашыў Нёман, і вясною, як быў багаты на ваду, вымыў іх, пакаціў і знішчыў. Мы, надняманцы, ужо ведалі, што кожную вясну Нёман многае робіць па-свойму: дзе захоча — прамые прорву, новае рэчышча, адмовіцца ад старога, у іншым месцы зробіць мелкату, дзе захоча — вымые глыбокую бухту, закруціць вір.

А калі неасцярожнае дрэва, нават векавечны дуб, падыдзе блізка да берага, каб паглядзецца ў ваду, Нёман падмые яго карані і паваліць, ні з кім не параіцца: не перашкаджайце майму бегу, маёй гульні.

Што ні кажыце, рэчкі як людзі: з імі трэба лічыцца, паважаць іх характар.

**Я. КРАМКО.**



**НАШ АДРАС:**

МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 739